Установа адукацыі
«Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы»

**І.І. Трацяк**

# УВОДЗІНЫ Ў ТУРЫЗМ

Навучальна-метадычны дапаможнік па аднайменнай дысцыпліне для студэнтаў па спецыяльнасці
……………….. «турызм і гасціннасць»

**Гродна**

**ГрДУ імя Янкі Купалы**

**2011**

УДК 379.83(078)
ББК 65.43
Т65

Рэкамендавана Саветам факультэта
турызму і сэрвісу ГрДУ імя Янкі Купалы.

Рэцэнзенты:

*Карнялюк В.Р.*, кандыдат гістарычных навук, дацэнт;
*Мазько Э.А.*, кандыдат гістарычных навук, дацэнт.

**Трацяк, І.І.**

Т65 Уводзіны ў турызм : метад. рэк. / І.І. Трацяк. – Гродна : ГрДУ, 2011. – 55 с.
ISBN 978-985-515-491-5

Метадычныя рэкамендацыі ўключаюць навучальную праграму, кароткі змест асноўных тэмаў курса, планы лекцыйных і практычных заняткаў, тэсты, кантрольныя пытанні, агляд літаратуры. Разлічаны на студэнтаў па спецыяльнасці «Турызм і гасціннасць».

**УДК 379.83(078)**
**ББК 65.43**



**ISBN 978-985-515-491-5**

# ПРАДМОВА

Дысцыпліна «Уводзіны ў турызм» выкладаецца ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы на факультэце турызму і сэрвісу ў аб'ёме 68 аўдыторных гадзін, у тым ліку 30 лекцыйных і 38 практычных.

Структура выдання ўключае навучальную праграму, тэмы лекцый і практычных заняткаў з рэкамендацыяй адпаведнай літаратуры, кантрольныя тэсты, пытанні для залікаў і экзаменаў, спіс літаратуры.

Да кожнай тэмы лекцый даюцца асноўныя пытанні і кароткае тлумачальнае рэзюме, якое раскрывае асноўныя тэарэтычныя і метадалагічныя праблемы і акрэслівае месца лекцыі ў праграме, што дазваляе студэнтам сфармаваць патрэбнае ўяўленне аб асноўным змесце і праблематыцы дысцыпліны.

Тэматыка практычных заняткаў, апрача праблемных пытанняў, суправаджаецца рэкамендацыяй адпаведнай навучальна-метадычнай літаратурай да кожнай тэмы.

Для больш паглыбленага вывучэння дысцыпліны, з улікам індывідуальных інтарэсаў студэнтаў, іх зацікаўленасці канкрэтнымі праблемамі турызму прапануюцца пытанні для самакантролю і тэсты, а напрыканцы – агульны спіс літаратуры.

Выданне будзе карысным для студэнтаў дзённай і завочнай формы навучання як у справе арганізацыі аўдыторных заняткаў, так і ў забеспячэнні самастойнага вывучэння імі дысцыпліны.

# I. НАВУЧАЛЬНАЯ ПРАГРАМА

## 1. Тлумачальная запіска

### *1.1. Характарыстыка навучальнай дысцыпліны.*

Курс «Уводзіны ў турызм» з'яўляецца адным з першых профільных прадметаў, які прапануецца студэнтам у першым семестры навучання. Прадмет дае магчымасць пазнаёміцца з прафесійнай лексікай, асноўнымі тэрмінамі і паняткамі турыстычнай сферы дзейнасці.

### *1.2. Роля і месца дысцыпліны ў сістэме падрыхтоўкі спецыялістаў.*

Прадмет «Уводзіны ў турызм» дае першасныя ўяўленні, разуменне і асэнсаванне турызму як шматфункцыянальнай з'явы, што адыгрывае важную ролю ў сітстэме падрыхтоўкі будучых спецыялістаў.

### *1.3. Сувязь з іншымі дысцыплінамі навучальнага плана.*

Прадмет «Уводзіны ў турызм» адначасна з'яўляецца і ўводзінамі да іншых профільных дысцыплін, з больш паглыбленым вывучэннем спецыфікі турыстычнай дзейнасці на наступных курсах.

### *1.4. Мэты і задачы навучальнай дысцыпліны.*

Мэта: паказаць ролю, месца і прызначэнне турызму ў эканамічным, культурным і іншых аспектах краін свету і Рэспублікі Беларусь, у прыватнасці, азнаёміць студэнтаў з асноўнымі тэарэтычнымі паняткамі, тэрміналогіяй і практычнымі ведамі паводле дысцыпліны.

Задачы курса: падрыхтоўка спецыялістаў у сферы арганізацыі турыстычнага сервісу, здольных свабодна валодаць базавымі прынцыпамі, паняткамі і тэзісамі турызму, як ў сістэме навучальнага працэсу, так і ў практычнай дзейнасці.

### *1.5. Патрабаванні да кампетэнтнасці.*

У выніку вывучэння дысцыпліны студэнт павінен

– *ведаць:*

1) тэрміналогію;

2) сутнасць, структуру і змест работы ў сферы турызму;
3) асноўныя кірункі і метады працы;
– *умець*: выяўляць і тлумачыць асаблівасці сітуацыі на рынку турыстычных паслуг;
– *валодаць навыкамі* арганізацыі турыстычнай дзейнасці, сэрвісу і рынку.

### *1.6. Метады (тэхналогіі) навучання – комплексны.*

У адпаведнасці з навучальным планам на вывучэнне дысцыпліны адведзена 68 гадзінаў, з іх аўдыторных – 68 гадзін.

Прыкладнае размеркаванне аўдыторнага часу:
– *лекцыі* – 30 гадзін;
– *лабараторныя* заняткі – 2 гадзіны;
– семінары – 36 гадзін.

## 2. Прыкладны тэматычны план

| № п/п | Назвы тэмаў і раздзелаў | Колькасць аўдыторных гадзін | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Лекцыі | Практычныя (семінарскія) заняткі | Лабараторные заняткі | Кіруючая (кантралюючая) самастойная праца студэнта |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| 1. | У вытоках турызму | 2 | 2 | | |
| 2. | Турызм у XX – XXI стст. | 2 | 2 | | |
| 3. | Міжнародныя і нацыянальныя турыстычныя арганізацыі | 2 | 2 | | |
| 4. | Уяўленне пра турызм | 2 | 2 | | |
| 5. | Турызм як сацыяльна-эканамічная сістэма | 2 | 4 | | |
| 6. | Класіфікацыя і віды турызму | 2 | 2 | | 2 |
| 7. | Турыст | 2 | 2 | | |
| 8. | Турыстычныя паслугі | 2 | 2 | | |
| 9. | Турыстычны прадукт | 2 | 2 | | |

Працяг табліцы

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| **10.** | **Турыстычная індустрыя** | **4** | **4** | | **2** |
| **11.** | **Турыстычныя рэсурсы** | **2** | **4** | | **2** |
| **12.** | **Бяспека ў турызме** | **2** | **2** | | |
| **13.** | **Турыстыка** | **2** | **2** | | |
| **14.** | **Крыніцы інфармацыі аб турыстычнай дзейнасці** | **2** | **2** | | **2** |
| **15.** | **Тэрміналогія ў турызме** | | **2** | **2** | **2** |
| | | **30** | **36** | **2** | **10** |

## 3. Змест навучальнага матэрыялу

**Тэма 1. У вытоках турызму.** Падарожжы і падарожнікі. Паэтапная гісторыя развіцця турызму. Паломніцтвы і хаджэнні. Вандроўніцтвы і першаадкрыцці. Этап масавага турызму: Томас Кук як заснавальнік масавага турызму. Традыцыі беларускай гасціннасці.

**Тэма 2. Турызм у ХХ – ХХІ стст.** Міжнародны турызм: геаграфія, статыстыка, эканамічныя фактары і асаблівасці развіцця. Турызм у Рэспубліцы Беларусь: агульныя тэндэнцыі, асаблівасці і перспектывы развіцця.

**Тэма 3. Міжнародныя, нацыянальныя і рэгіянальныя турыстычныя арганізацыі.** Міжнародныя турыстычныя арганізацыі: Сусветная турыстычная арганізацыя (Всемирная туристская организация – ЮНВТО); Эканамічны і Сацыялагічны Савет (ЭКАСОС) ААН па адукацыі, навуцы і культуры (ЮНЕСКА); Асацыяцыя паветраных перавозчыкаў International Air Transport Association – IATA. Спецыялізаваныя недзяржаўныя турыстычныя арганізацыі. Рэгіянальныя турыстычныя арганізацыі.

**Тэма 4. Уяўленне пра турызм.** Статыстычнае вызначэнне тэрміна. Характэрныя рысы турызму. Падарожнікі, экскурсанты, турысты. Турыстычная матывацыя. Функцыянальная роля турызму ў грамадстве.

**Тэма 5. Турызм як сацыяльна-эканамічная сістэма.** Эканамічны змест турызму. Турыстычны рэгіён. Фактары ўплыву на развіццё турызму: экзагенныя фактары. Унутраныя фактары ўплыву. Станоўчыя і адмоўныя фактары развіцця турызму ў рэгіёне.

**Тэма 6. Класіфікацыя турызму.** Тыпы і катэгорыі турызму. Функцыянальная віды і падвіды турызму: асноўныя. Спецыяльныя віды турызму. Формы турызму. Актыўны і пасіўны турызм. Таймшэр. Гастранамічныя туры. Шопінг.

**Тэма 7. Турыст.** Азначэнне турыста. Асноўныя крытэрыі і прыметы турыста. Турыст і арганізацыйныя фармальнасці. Турысты і экскурсанты. Тыпы турыстаў. Турыстычныя функцыянальнасці. Хартыя турызму. Кодэкс турыста.

**Тэма 8. Турыстычныя паслугі.** Патрэбы і паслугі. Асаблівасці паслугі як тавару. Турыстычныя паслугі. Асноўныя кампаненты турыстычных паслуг. Пасрэдніцкія і тыповыя паслугі. Дадатковыя і нетыповыя турыстычныя паслугі. Турыстычныя тавары. Шопінг. Купля за мяжой. Аніяманія. Стандартызацыя і сертыфікацыя паслуг.

**Тэма 9. Турыстычны прадукт.** Уяўленне пра турыстычны прадукт. Тры крыніцы турыстычнага прадукту. Структура турыстычнага прадукту. Юрыдычная прырода турыстычнага прадукту. Эканамічная прырода турыстычнага прадукту. Права на тур. Тур і турыстычны маршрут.

**Тэма 10. Турыстычная індустрыя.** Турыстычная індустрыя – агульнае ўяўленне. Турыстычная індустрыя як від вытворчасці. Турыстычная дзейнасць. Турыстычныя прадпрыемствы і іх функцыянальная роля. Арганізатары турызму. Сістэма транспарту. Гасцінічная індустрыя. Сістэма (грамадскага) харчавання турыстаў. Забаўляльнасць і сістэма атракцый. Інфраструктура турызму. Матэрыяльна-тэхнічная база турызму.

**Тэма 11. Турыстычныя рэсурсы.** Турыстычны інтарэс. Аб’екты турыстычнага інтарэсу. Турыстычныя рэсурсы – азначэнне. Прыродная і культурная спадчына як турыстычны рэсурс. Канцэпцыя ўстойлівага развіцця турызму. Экалогія і турызм. Ахоўныя тэрыторыі. Нацыянальныя паркі і рэзервацыі. Тэматычныя паркі. Цуды свету. Свабодныя турыстычныя рэкрэацыйныя і эканамічныя зоны.

**Тэма 12. Бяспека ў турызме.** Бяспека турыстычнага маршруту. Фактары небяспекі. Надзвычайныя сітуацыі. Турыстычная, камерцыйная і арганізацыйная рызыка. Турыстычная страхоўка. Апекуны падарожнікаў.

**Тэма 13. Турыстыка.** Турыстыка як навука. Гнаселагічная мадэль турызму. Турызм і іншыя сумежныя і дапаможныя дысцыпліны і навукі: псіхалогія, антрапалогія, сацыялогія, эканоміка, геаграфія, інфарматыка, права.

**Тэма 14. Крыніцы і літаратура аб турыстычнай дзейнасці.** Прававая і заканадаўчая літаратура. Статыстычныя крыніцы пра турыстычную дзейнасць. Сродкі масавай інфармацыі пра міжнародны  і нацыянальны турызм. Аўдзіт. Апытванне і анкетаванне турыстаў.

**Тэма 15. Тэрміналогія ў турызме.** Вывучыць спецыфічныя тэрміны і паняткі прафесійнай лексікі. Ведаць іх  значэнне і тлумачэнне.

# II. ТЭМАТЫКА ЛЕКЦЫЙНАГА МАТЭРЫЯЛУ

## Тэма 1. **У вытоках турызму** (2 гадзіны)

1. *Падарожжы і падарожнікі.*
2. *Паэтапная гісторыя развіцця турызму.*
3. *Паломніцтвы і хаджэнні.*
4. *Вандроўніцтвы і першаадкрыцці.*
5. *Этап масавага турызму: Томас Кук як заснавальнік масавага турызму.*
6. *Традыцыі беларускай гасціннасці.*

**Прадгісторыя развіцця турызму. Падарожжа** – *travel, trip, voyge* – перамяшчэнне людзей у прасторы і часу (мораплаўцы, пешаходы,  аўтамабілісты, касманаўты, качэўнікі, мігранты, экспедытары, вахтавікі, дыпламаты, вайскоўцы, наведвальнікі, госці і г.д).

**Паэтапная гісторыя развіцця турызму.**

**І этап:** ад антычнасці да Новага часу – да канца XVIII ст. Падарожжы ў старажытнасці, перасяленні народаў, алімпійскія гульні, Герадот, падарожжа Піфея, «Пра акеанію», заваёўніцкія войны, паходы Ацілы, А. Македонскага; біблейская матывацыя падарожжаў: пошукі зямлі абяцанай, Ісус Сірахаў («Кніга прамудрасці…»), місійная дзейнасць Апостала Якава і іншых. Сярэднявечча. Паломніцтвы і хаджэнні, Паломніцтвы ў хрысціянстве, экспедыцыя да крыжа Гасподняга і пабудова храма. Маршруты для паломнікаў, першыя пуцяводнікі. Хрысціянскія святыні: гарады, цэрквы, культ Апосталаў,  культ Багародзіцы,  культ святых (гара Афон у Грэцыі, в. Кіпр, Кіева-Пячорская Лаўра, інш.). Манаскія ордэны і манастыры ў сферы абслугі паломнікаў. Крыжовыя паходы XI – XII стст. Святыя мясціны іудзеяў, мусульман, будыстаў. Вандроўніцтвы і першаадкрыцці: Марка Пола (XIII – XVI стст., Азія), Ібн Батута (XIV ст., Афрыка, Кітай, Індыя), Ф. Магелан, Васко да Гама,

Х. Калумб (XV – XVI стст.). Хаджэнні ігумена Даніла (Афон, Святая зямля, XI ст.), Афанасія Нікіціна («Хаджэнне за тры моры», XV ст.); падарожжы В. Берынга (XVII – XVIII ст.), М. Міклуха-Маклая, М. Пржэвальскага (XIX ст.), інш. Гісторыя падарожжаў, вандровак, паломніцтваў, хаджэнняў старажытнай Беларусі. Шлях з варагаў у грэкі. Торвальд Вандроўнік, Еўфрасіння Полацкая, Мікола Гусоўскі, Саламея Русецкая, Ігнат Дамейка. Беларусы – даследчыкі Усходу і Сібіры. Іосіф Гашкевіч, інш.

**II этап:** XIX ст. – да пачатку Першай сусветнай вайны. Перыяд прафесійных падарожжаў і элітнага турызму. Падарожжа і турызм. Пуцяводнік Бедэкера з Англіі ў Францыю (1829 г.). Развіццё чыгуначнага транспарту, маршрут: Манчэсцер – Ліверпуль (1830 г.). Томас Кук, заснавальнік масавага турызму. Першыя турбюро ў Еўропе і ў Расіі.

**III этап:** міжваенны перыяд (1921 – 1939 гг.). Станаўленне масавага турызму. Арганізацыя міжнародных турфірм, рост колькасці турбюро.

**IV этап:** пасля Другой сусветнай вайны да сучаснасці. Этап масавага турызму. Фармаванне турындустрыі, рост турпрадпрыемстваў і турыстаў. Чыгуначны і аўтамабільны турызм.

**Традыцыі беларускай гасціннасці.** Прыродна-геаграфічныя і геапалітычныя ўмовы. Размяшчэнне мястэчкаў і гарадоў. Міфалагічныя і народныя ўяўленні гасціннасці (Бялун, сімволіка дарогі, хлеб і соль, кут, парог). Літаратурна-мастацкія інтэрпрэтацыі. Семантыка слоў *госці, гасцінец, гасцінны двор, пагост*. Гасціннасць, як адна з праяў беларускай ментальнасці.

## Пытанні для самаправеркі

1. Дайце тлумачэнне тэрмінам «падарожжа», «вандроўка», «экспедыцыя», «паломніцтва», «пілігрымка».
2. У чым сутнасць турыстычнай дзейнасці Т. Кука?
3. Што было характэрным у развіцці турызму ў Расіі ў XIX ст.?
4. Што характэрна для прадгісторыі развіцця турызму: ахарактарызуйце кожны з этапаў развіцця?
5. Якія вы ведаеце святыя мясціны для паломніцтва іудзеяў, хрысціян, мусульман?
6. Назавіце вядомых падарожнікаў, першапраходцаў. Хто з іх нарадзіўся ў Беларусі?
7. Як праявіліся традыцыі гасціннасці ў беларускай міфалогіі і фальклоры?
8. Што вы ведаеце пра гасціннасць беларускага застолля?

9. Растлумачце семантыку словаў **госці, гасцінец, гасцінцы, гасцініца, пагост.**

10. У якіх творах мастацкай літаратуры гаворыцца пра беларускую гасціннасць?

## Тэма 2. **Турызм у XX – XXI стст.** (2 гадзіны)

1. *Міжнародны турызм: геаграфія, статыстыка, эканамічныя фактары і асаблівасці развіцця.*
2. *Турызм у Рэспубліцы Беларусь: агульныя тэндэнцыі, асаблівасці і перспектывы развіцця.*

**Турызм у XX ст.: агульнае ўяўленне. Статыстыка** (па колькасці наведванняў), эканамічныя фактары (даход), геаграфія і асаблівасці развіцця міжнароднага турызму паводле турыстычных рэгіёнаў.

**Турыстычныя рэгіёны і зоны** паводле колькасці турыстаў: Еўропа, Амерыка, ВАТ, Афрыка, Сярэдняя Азія, Блізкі Усход,

**Еўропа:** страта дамінацыі, старэнне турпрадукту, высокія цэны, сацыяльна-эканамічныя і этнічныя праблемы ў цэнтральных і ўсходніх рэгіёнах, рост папулярнасці паўднёва-усходніх рэгіёнаў Азіі. Віды турызму: рэкрэацыйны (летні, пляжны), культурна-асветніцкі, адукацыйны і пазнавальны

**Амерыка** (Паўднёвая, Цэнтральная, Паўночная). Даходы, ЗША, Канада, Карыбскія астравы. Віды – рэкрэацыйны, спартыўны, пазнавальны, бізнес-турызм.

**ВАТ** (Усходняя Азія і Ціхаакеанскі рэгіён) – Ганконг, Малайзія, Сінгапур, Паўднёвая Карэя, Тайланд, Інданезія, Тайвань, Кітай, Японія Аўстралія, Новая Зеландыя (унікальнасць прыроды, бізнес-туры, забаўляльнасць, шоп-турызм). Расходы турыста – каля 760 $ (сусветны сярэдні ўзровень – 660 $), выключэнне – Кітай – каля 200 $.

**Афрыка** (Туніс, Егіпет, Марока, Кенія, Танзанія, Маўрытанія, Зімбабе, Сайшэльскія астравы, ЮАР): высокія цэны: 900 $, неразвітасць эканомікі, палітычная нестабільнасць, вайсковыя канфлікты, эпідэміі. Генератары турызму – афрыканцы (да 50 %), далей Францыя, Германія, Англія.

**Блізкі Ўсход** (Ліван, Сірыя, Ізраіль)

**Паўднёвая Азія** (Індыя, В'етнам).

**Агульныя тэндэнцыі, асаблівасці і перспектывы развіцця турызму ў Рэспубліцы Беларусь.** Закон «Аб турызме», дзяржаўная палітыка і Нацыянальныя праграмы развіцця турызму. Мініс-

тэрства спорту і турызму, Дэпартамент, абласныя, раённыя і гарадскія міжведамасныя каардынацыйныя саветы па турызму. Перспектыўнасць (геапалітыка, прырода). Турыстычныя аб'екты Рэспублікі Беларусь пад аховай ЮНЕСКА, найбольш папулярныя аб'екты турызму.

Стрымліваючыя фактары. Статыстыка наведванняў. Перспектывы агратурызму ў Рэспубліцы Беларусь; іншыя віды турызму. Развіццё інфраструктуры.

## Пытанні для самаправеркі

1. Пералічыце найбольш развітыя турыстычныя рэгіёны па колькасці наведванняў і даходу ад турызму: аргументуйце прычыны.
2. Чаму Еўропа здае дамінуючыя пазіцыі турыстычнага рэгіёна?
3. Дайце ацэнку сітуацыі і дзяржаўнай палітыцы ў адносінах да перспектывы развіцця турызму ў Рэспубліцы Беларусь.
4. Якія фактары, на вашу думку, перашкаджаюць актывізацыі турызму ў Беларусі?

## Тэма 3. **Міжнародныя, нацыянальныя і рэгіянальныя турыстычныя арганізацыі** (2 гадзіны)

1. *Міжнародныя турыстычныя арганізацыі:*
   *1) Сусветная турыстычная арганізацыя (ЮНВТО);*
   *2) Эканамічны і Сацыялагічны Савет (ЭКАСОС) ААН па адукацыі, навуцы і культуры (ЮНЕСКА);*
   *3) Асацыяцыя паветраных перавозчыкаў International Air Transport Association — IATA.*
2. *Спецыялізаваныя недзяржаўныя турыстычныя арганізацыі.*
3. *Рэгіянальныя турыстычныя арганізацыі.*

**МСТА** – міжнародная сусветная турыстычная арганізацыя, (Международная всемирная туристическая организация – ЮНВТО, створаная пры ААН. **Гісторыя ўзнікнення.** Статут СТА (па-руску – ВТО). Першая Генеральная асамблея, зацвярджэння Сусветнага дня турыста, прыняцце Хартыі турызму і Кодэкса турыста. **Структура:** Генеральная асамблея – вышэйшы орган ВТО; Выканаўчая рада, рэгіянальныя камісіі, камітэты, сакратарыят. Афіцыйныя мовы. **Мэты,** задачы, кірункі працы ВТО. **Сяброўства.**

**Эканамічны і Сацыялагічны Савет (ЭКАСОС) ААН па адукацыі, навуцы і культуры (ЮНЕСКА)**.

**Міжнародная асацыяцыя паветраных перавозчыкаў** International Air Transport Association (IATA) – 1919 г. Заснавальнікі. Функцыі: тэхнічныя, юрыдычныя, каардынацыя пасажырскага, паштовага і грузавога транспарту, фінансавая палітыка, агенцкая праца, інфармацыйныя, стандартызацыя працэдур; бяспека. IATA сёння. Зоны трафіка.

**Спецыялізаваныя недзяржаўныя турыстычныя арганізацыі:** Сусветная федэрацыя асацыяцый турагенств, Міжнародная асацыяцыя дзелавога турызму, Асацыяцыя спецыялістаў па арганізацыі карпаратыўных паездак.

**Рэгіянальныя турыстычныя арганізацыі:** Еўрапейская камісія падарожжаў, Еўрапейская арганізацыя рэкрэацыі і адпачынку, Міжнародная федэрацыя недзяржаўных асацыяцый па ахове культурнай спадчыны і помнікаў прыроды.

**Расійскі Саюз Турыстычнай індустрыі** (РСТІ), 1993 г.: мэты, задачы, структура.

## Пытанні для самаправеркі

1. *Для якіх мэтаў ствараласяСусветная турыстычная арганізацыя (СТА), (па-руску ВТО)?*
2. Пералічыце галоўныя функцыі ВТО.
3. Якія вы ведаеце праграмныя дакументы ВТО?
4. Якія турыстычныя арганізацыі функцыянуюць у Беларусі?

## Тэма 4. **Уяўленне пра турызм** (2 гадзіны)

1. *Статыстычнае вызначэнне тэрміна.*
2. *Характэрныя рысы турызму.*
3. *Падарожнікі, экскурсанты, турысты.*
4. *Турыстычная матывацыя.*
5. *Функцыянальная роля турызму ў грамадстве.*

**Турызм** (ад фр. *tourisme, tour* – прагулка, паездка). Статыстычнае вызначэнне тэрміну. Арганізацыйная характарыстыка турызму (удзельнікі тура, выезд за межы звычайнага асяроддзя,часовы характар перамяшчэння, мэта паездкі, паездка ў вольны час, начлег, забарона займацца аплачваемай дзейнасцю на месцы наведвання.

**Падарожнікі, экскурсанты, турысты** – размежаванне паняткаў. **Удзельнікі турызму.**

Чатыры адрозненні турызму ад падарожжаў: дыстанцыя, змена места, мэты падарожжа, тэрміны знаходжання.

**Турыстычная матывацыя.**

**Мэты турыстычнага падарожжа:** рэкрэацыйныя, пазнавальныя, спартыўна-фізкультурныя, прафесійна-дзелавыя, рэлігійныя, іншыя). **Ускосныя мэты:** разумная эксплуатацыя турыстычных рэсурсаў; турызм ў мэтах эканомікі (даход, дзяржбюджэт, занятасць), палітыкі (турызм як інструмент палітычнага курса дзяржавы, сродак ідэалогіі, стабільнасць міру, падзейны турызм як нагода міждзяржаўных сустрэч, палітычныя форумы і турызм. Палітыка – спорт – турызм: алімпіяды, ігры добрай волі і г.д.). Гуманітарныя мэты турызму: уплыў на сацыяльную, культурную, адукацыйную і іншыя сферы жыцця грамадства.

**Мэты турыстаў:** вывучэнне і знаёмства з новай культурай, традыцыямі, прыродай, ладам жыцця, кухняй; наведванне музеяў, тэатраў, атракцый, забаў, карнавалаў, фэстаў, тэматычных паркаў, аквапаркаў і інш.; змена абстаноўкі, зняцце стрэсу, адпачынак на моры, у гарах, у лесе, спорт, экстрым; сустрэчы з новымі людзьмі, сваякамі, сябрамі; шопінг, бізнес, лячэнне, паломніцтвы). Статыстычнае вызначэнне (паводле дамінацыі): 1) рэкрэацыя, адпачынак, пазнавальныя мэты (агляд помнікаў прыроды і культуры, удзел у спартыўных і культурных імпрэзах, азартныя гульні, паходы, пляж, шопінг); 2) прафілактыка і лячэнне (курорты, пансіянаты, санаторыі: лячэбныя воды, гразі і інш.); 3) прафесійна-дзелавыя мэты (камандзіровачныя спецыялісты, удзел у працы канферэнцый, кангрэсаў, з’ездаў, форумаў, выстаў, інсентыў-турызм, выступы з лекцыямі, канцэртамі, падрыхтоўка праграм, заключэнне дамоваў, праца гідаў, адукацыя, курсы, прафесійны спорт, інш.); 4) гасцявыя мэты (наведванне знаёмых, сваякоў, выезд на радзіму, прыезд на пахаванне); 5) рэлігійныя (паломніцтва, культурна-рэлігійны турызм); 6) спартыўныя (удзел у спорт. мерапрыемствах, балельшчыкі: абслуга: перавозка, пасяленне, харчаванне, атракцыі); 7) іншыя мэты – дзейнасць экіпажаў пасажырскага транспарту паветранага і воднага.

**Мэты дэстынацыі прыёму** (продаж турпрадукту, забеспячэнне працай, заработак, адпачынак).

**Функцыі турызму** і яго роля ў сучасным грамадстве: эканамічная (асноўная, спецыфічная, дадатковая), сацыяльная (права на адпачынак, рэкрэацыя), гуманітарная (культурная, інтэлектуальная).

**Глабальны кодэкс этыкі турызму.**

## Пытанні для самаправеркі

1. Хто не з'яўляецца ўдзельнікам турызму?
2. Хто можа быць удзельнікам турызму?
3. Падарожнікі і турысты – у чым падабенства і адрозненні?
4. Якія мэты з'яўляюцца ў турызме найбольш папулярнымі?
5. Дайце характарыстыку «Глабальнага кодэкса этыкі турызму».
6. Што сабой уяўляе матывацыя турызму ў Беларусі?

## Тэма 5. **Турызм як сацыяльна-эканамічная сістэма** (2 гадзіны)

1. *Эканамічны змест турызму.*
2. *Турыстычны рэгіён.*
3. *Фактары ўплыву на развіццё турызму: экзагенныя фактары.*
4. *Унутраныя фактары ўплыву.*
5. *Станоўчыя і адмоўныя фактары развіцця турызму ў рэгіёне.*

**Турызм як сацыяльна-эканамічная сістэма.** Турызм як суперсістэма: грамадства, эканоміка, прырода. Суб'ект, аб'ект і прадмет турызму. Турыстычны рэгіён **(дэстынацыя):** крытэрыі і патрабаванні.

**Эканоміка** і масавы характар турызму.

Тэрміналогія і паняткі**: турыстычнае сальда, міжнародны актыўны і пасіўны турызм, экспарт і імпарт** у турызме, інш. (т**урыстычны баланс краіны** – адносіны між коштам тавараў і паслуг у сферы **экспарту** і **імпарту** турызму. **Сальда турыстычнага балансу** станоўчае, калі гутарка ідзе пра **актыўны турызм** (Тайланд, Швейцарыя), калі адмоўнае – **пасіўны** (Нямеччына, Расія, Беларусь).

Галоўная мэта турызму з эканамічнага пункту гледжання. Турыстычны бізнес як стымулятар іншых галінаў гаспадаркі: будаўніцтва, гандаль, транспарт, тавары шырокага спажывання, сувязь і інш.

**Мультыплікатар турызму.**

**Фактары знешнія** (экзагенныя): прыродныя, геаграфічныя, экалагічныя, культурныя, гістарычныя, эканамічныя, сацыяльныя, дэмаграфічныя, палітычныя, прававыя, тэхналагічныя.

Сезоннасць (летні, зімні, міжсезонне, «мёртвы сезон»).

**Фактары ўнутраныя** (эндагенныя) – фактары сферы турызму: матэрыяльна-тэхнічная база, узровень інфраструктуры, сродкі размяшчэння, стан транспарту, прадпрыемстваў харчу, рэкрэацыі

і гандлю, а таксама, інфармаванасць, каардынацыя дзейнасці, кадры, рэклама.

**Станоўчыя і адмоўныя фактары развіцця турызму ў рэгіёне**.

## Пытанні для самаправеркі

1. Што з'яўляецца аб'ектам і суб'ектам у турызме?
2. Якім крытэрыям павінен адпавядаць турыстычны рэгіён?
3. Якія вы ведаеце турыстычныя рэгіёны ў Беларусі?
4. Растлумачце сутнасць эканамічнага зместу турызму.
5. Якія вядомыя вам станоўчыя і адмоўныя фактары развіцця турызму на Гродзеншчыне?

## Тэма 6 . **Класіфікацыя турызму** (2 гадзіны)

1. *Тыпы і катэгорыі турызму.*
2. *Функцыянальная віды і падвіды турызму: асноўныя.*
3. *Спецыяльныя віды турызму.*
4. *Формы турызму.*
5. *Актыўны і пасіўны турызм.*
6. *Таймшэр.*
7. *Гастранамічныя туры. Шопінг.*

Класіфікацыя турызму праходзіць паводле розных крытэрыяў. Выдзяляюць тыпы, катэгорыі, віды і формы турызму.

**Тыпы турызму:** унутраны, выязны, уязны.

**Катэгорыі турызму:** 1) турызм у межах краіны, 2) нацыянальны, 3) міжнародны (вызначаецца паводле нацыянальнай прыналежнасці, накіраванасці, месцапражывання).

**Віды і падвіды турызму** фармуюцца паводле матывацыі паездкі.

**Асноўныя віды турызму: рэкрэацыйны** (летні, пляжны, горны, экалагічны, агратурызм, фізкультурна-аздараўляльны), **лячэбны** (курортны, бальнеалагічны, кліматалагічны), **пазнавальны** (культурна-асветніцкі, этнаграфічны, гістарычна-археалагічны, навучальна-экспедыцыйны, культурна-забаўляльны, ваенна-патрыятычны, музейны), **дзелавы** (кангрэсавы, бізнес-тур, выставачны, інсетыў-тур), **спартыўны** (прафесійны, аматарскі), **рэлігійны** (паломніцкі, канфесійна-пазнавальны), **этнічны** (настальгічны), **адукацыйны, транзітны.**

**Спецыяльныя віды турызму: агратурызм** (вясковы, сельскі); **экалагічны** («сіні сцяг»); **экстрэмальны** (водны – дайвінг, водныя лыжы, серфінг, віндсерфінг, рафтынг; наземны – спелеалогія, Х-гонкі – экстрым-гонкі; горны – альпінізм, сноўбордзінг; паветраны – парашутны, фрыстайл, паветраны шар, дэльтапланерызм); **экзатычны** (касмічны, джайла-тур, палярны, сафары), **спартыўны** (аматарскі – зімні, летні, горны, паветраны, водны, пустынны, фан-турызм); **падзейны, круізны** і іншыя.

**Формы турызму паводле:**

– **спосабаў арганізацыі і рэалізацыі тура** (арганізаваны, паушальны (стандартны набор паслуг, пекідж-тур), неарганізаваны, самадзейны (альтэрнатыўны, індывідуальны,);

– **колькасці ўдзельнікаў** (групавы, адзіночны);

– **арганізацыі транспартных сродкаў:** наземны (чыгуначны, аўтамабільны, аўтобусны, роварны і матацыклетны), паветраны (авіяцыйны, на дырыжаблях, паветраных шарах) водны (на байдарках, караблях, лодках, яхтах);

– **інтэнсіўнасці** (пастаянны, сезонны);

– **дэмаграфічнага і сацыяльнага складу:** паводле ўзросту (дзіцячы, моладзевы, сярэдні ўзрост, старэйшы ўзрост), паводле пражывання (гарадскі ўдзельнік туру, сельскі), сацыяльнага стану (сямейны, школьны, студэнцкі, пенсійны), прафесійнага складу;

– **працягласці туру** (кароткачасовы, доўгатэрміновы);

– **крыніцы фінансавання** (сацыяльны, камерцыйны, інтэнсіў-тур).

Актыўны і пасіўны турызм: формы турызму ў залежнасці ад спосабу правядзення адпачынку.

Таймшэр. Гастранамічныя туры. Шопінг.

## Пытанні для самаправеркі

1. Якія вы ведаеце тыпы і катэгорыі турызму? Якія крытэрыі пакладзены ў аснову іх вызначэння?
2. Пералічыце асноўныя віды турызму.
3. Якія формы ўласцівыя турызму паводле арганізацыі?
4. Якія віды турызму з'яўляюцца папулярнымі ў Беларусі?
5. Як дзяржава заахвочвае развіццё агратурызму ў Беларусі?
6. Ці магчымы экзатычныя віды турызму ў Беларусі?
7. Якія падзеі ў нашай краіне маглі б зацікавіць замежных турыстаў?
8. Што вы можаце сказаць пра турмаршруты студэнцкага турызму?

# Тэма 7. **Турыст** (2 гадзіны)

1. *Азначэнне турыста.*
2. *Асноўныя крытэрыі і прыметы турыста.*
3. *Турыст і арганізацыйныя фармальнасці.*
4. *Турысты і экскурсанты.*
5. *Тыпы турыстаў.*
6. *Турыстычныя функцыянальнасці.*
7. *Хартыя турызму. Кодэкс турыста.*

Вызначэнне асноўных крытэрыяў і прыметаў турыста. Дэфініцыі турыста. **Турыст – спажывец турыстычнага прадукту**. Турыст – часовы наведвальнік з начлегам.

Да катэгорыі турыстаў не адносяцца і не ўлічваюцца ў статыстыцы турызму асобы, якія ажыццяўляюць паездкі ў межах звычайнага асяроддзя, мігранты, змена месцажыхарства, бежанцы, качэўнікі, сезонныя працоўныя, артысты, вайскоўцы, дыпламаты. Закон Рэспублікі Беларусь **«Аб турызме»:** «Турыст – грамадзянін, які наведвае краіну (места) часовага знаходжання тэрмінам ад 24 гадзін да 6 месяцаў альбо робіць ня менш аднаго начлегу ў аздараўляльных, пазнавальных, дзелавых, спартыўных, рэлігійных і іншых мэтах без занятку аплачваемай дзейнасці».

**Турыст і арганізацыйныя фармальнасці:** дакументацыя, страхоўка, даведкі на льготы, нацыянальная прыналежнасць, пол, катэгорыі ўзросту, рэлігія, мова, размяшчэнне, мэты паездкі, забарона на працу. Фармальнасці пры афармленні візы. Шэнгенская зона і Шэнгенская віза.

Унутраныя і міжнародныя турысты.

Экскурсанты, экскурсаводы, гіды-перакладчыкі – тлумачэнне паняткаў. Турысты і экскурсанты.

**Тыпы турыстаў**: у залежнасці ад актыўнасці (аматары спакойнага, актыўнага, спартыўнага адпачынку, аматары задавальненняў, пазнання, прыгодаў); у залежнасці ад стылю жыцця (аматары асалоды, тэндэнцыйныя, сямейныя, поўнаадпачываючыя).

**Турыстычныя функцыянальнасці**: арганізаваны масавы турыст, індывідуальны, турыст даследчык, турыст-вандроўнік.

Хартыя турызму. Кодэкс турыста: правы, абавязкі і нормы турыстаў.

## Пытанні для самаправеркі

1. Хто можа быць турыстам?
2. Якія існуюць турыстычныя фармальнасці для турыстаў-замежнікаў у Рэспубліцы Беларусь?

3. Турыстычныя фармальнасці ў Рэспубліцы Беларусь для выязнога турызму.
4. Якія краіны свету ўваходзяць у Шэнгенскую зону?
5. Што такое Шэнгенская віза?
6. Пералічыце статыстычнае вызначэнне катэгорый узросту ў турызме.
7. Якая катэгорыя турыстаў можа быць турыстамі-даследчыкамі і турыстамі-вандроўнікамі? Наколькі такія турысты маюць месца ў Рэспубліцы Беларусь?

## Тэма 8. **Турыстычныя паслугі** (2 гадзіны)

1. *Патрэбы і паслугі. Асаблівасці паслугі як тавару. Турыстычныя паслугі.*
2. *Асноўныя кампаненты турыстычных паслуг. Пасрэдніцкія і тыповыя паслугі.*
3. *Дадатковыя і нетыповыя турыстычныя паслугі.*
4. *Турыстычныя тавары. Шопінг. Купля за мяжой. Аніяманія.*
5. *Стандартызацыя і сертыфікацыя паслуг.*

**Патрэбы і паслугі**. **Патрэбы** (матэрыяльныя, духоўныя, сацыяльныя). Патрэбы (5) паводле Маслава. Паслуга як дзейнасць. Асаблівасці паслугі як тавара (грамадскія патрэбы і формы іх задавальнення; спажывецкі кошт паслугі і тавара). паслуга як тавар у эканамічнай тэорыі. Вызначэнне тэрміналогіі і паняткаў: рэалізацыя, продаж, пастаўшчыкі паслуг і спажыўцы паслуг.

**Турыстычныя паслугі** як сукупнасць арганізаванай дзейнасці. Адметнасці турпаслуг. Сутнасць турыстычнай паслугі і сутнасць тавару: пяць фактараў турыстычнай паслугі.

**Кампаненты турыстычных паслуг: асноўныя** (перавозка, размяшчэнне, харчаванне і паслугі аплачаныя раней), **пасрэдніцкія** (арганізацыйныя, афармленне дакументаў, візы, заключэнне дамоваў, бранiраванне, іншыя), **дадатковыя** (набытыя дадаткова ў працэсе). **тыповыя** (могуць быць асноўнымі і дадатковымі) **–** экскурсія, спартыўныя мерапрыемствы, страхавых кампаній, анімацыя, банкаўскай і фінансавай сферы, інфармацыйныя, сродкаў сувязі, іншыя.

**Дадатковыя, нетыповыя турыстычныя паслугі ад**

**– прадпрыемстваў сервісу:** гасцініцы (інтэрнэт у нумары), харчу (індывідуальнае меню), перавозкі (таксі); паслугі індывіду-

альнага гіда, абслуга асобаў з абмежаванымі магчымасцямі, медыцынскі нагляд; пракат, рамонт машын і відэа-, фотатэхнікі, ахова;

**– прадпрыемстваў гандлю:** афармленне заказу на тавар, падарункі, прэзенты, дастаўка; магчымасць траты грошаў.

**– прадпрыемстваў культуры:**

магчымасці рэалізацыі таленту, мерапрыемствы па інтарэсах, літаратурныя і музыкальныя вечарыны, індывідуальная культурная праграма.

**Анімацыя** як разнавіднасць тыповых турыстычных паслуг: атракцыі і забавы.

**Турыстычныя тавары** (неабходныя для тура, набытыя ў дарозе, сувеніры). Шопінг. Бяспошлінны гандаль. Купля за мяжой. Аніяманія.

**Стандартызацыя і сертыфікацыя паслуг**. Дзяржаўнае рэгуляванне турызмам і самарэгуляванне, кантроль якасці, дзяржаўныя стандарты (государственный стандарт – Гост), правілы і патрабаванні. Абавязковая і дабравольная сертыфікацыя.

**Праграма абслугі. Клас (узровень) абслугі** («люкс», «першы», «турыстычны», «эканамічны»).

## Пытанні для самаправеркі

1. Што сабой уяўляе іерархія грамадскіх патрэбаў паводле А. Маслова?
2. Дайце азначэнне турыстычнай паслугі.
3. Якімі крытэрыямі вызначаецца спажывецкі кошт паслугі?
4. Як вы разумееце розніцу між тыповымі і нетыповымі паслугамі?
5. Прааналізуйце пяць характэрных фактараў турпаслугі.
6. Дайце характарыстыку ўзроўням «класам» абслугі.
7. Пералічыце асартымент магчымых турыстычных тавараў.
8. Якія вы ведаеце дзяржаўныя стандарты ў галіне турызму?

## Тэма 9. Турыстычны прадукт (2 гадзіны)

1. *Уяўленне пра турыстычны прадукт.*
2. *Тры крыніцы турыстычнага прадукту.*
3. *Структура турыстычнага прадукту.*
4. *Юрыдычная прырода турыстычнага прадукту.*
5. *Эканамічная прырода турыстычнага прадукту.*
6. *Права на тур. Тур і турыстычны маршрут.*

**Уяўленне пра турыстычны прадукт.**

**Тры крыніцы турыстычнага прадукту** (турыстычныя рэсурсы, сістэма ведаў і тэхналогій турыстычных паслуг, арганізацыйна-прававая структура турыстычнай індустрыі і персанал). **Структура – складовыя часткі турыстычнага прадукту** (паслугі, работы, тавары). **Узроўні турыстычнага прадукту:** разавы (з адной – дзвюх паслуг), комплекса паслуг, нацыянальны (рэгіянальна-трансгранічны, рэгіянальна-тэрытарыяльны). Турыстычны прадукт як аснова тура. Спажыўцы турыстычнага прадукту.

**Юрыдычная прырода турыстычнага прадукту** (паслугі перавозкі і размяшчэнне, цэнаўтварэнне, фармаванне, прамоцыя і рэалізацыя турыстычнага прадукту).

**Эканамічная прырода турыстычнага прадукту** (асаблівасці фармавання і рэалізацыі, формы і віды фінансавага забеспячэння дзейнасці тураператара, падатак).

**Права на тур**.

**Тур і турыстычны маршрут**. Характэрныя тыпы турыстычных маршрутаў. Тур, турпакет (пэкідж-туры), індывідуальныя і групавыя туры. Мэтавая накіраванасць тура (пазнавальная, рэкрэацыйная, аздараўляльная, забаўляльная, аматарская, спецыялізаваная, азнаямляльная). Турмаршруты паводле характару перамяшчэння. Паход, турыстычная паездка. Турыстычная трапа.

## Пытанні для самаправеркі

1. Пералічыце асноўныя кампаненты турыстычнага прадукту.
2. Назавіце асноўныя ўзроўні і асаблівасці турыстычнага прадукту.
3. Якія фактары ўплываюць на якасць турпрадукту?
4. Размяжуйце паняткі: турыстычная паслуга, турпрадукт, тур.
5. Раскрыйце сутнасць юрыдычнай прыроды турпрадукту ў Рэспубліцы Беларусь.
6. Якія тыпы турыстычных маршрутаў найболей папулярныя ў Беларусі?
7. Прывядзіце прыклады магчымых турыстычных троп на падставе рэгіянальных турыстычных рэсурсаў.

## Тэма 10. **Турыстычная індустрыя** (4 гадзіны)

1. *Турыстычная індустрыя – агульнае ўяўленне.*
2. *Турыстычная індустрыя як від вытворчасці.*

3. *Турыстычная дзейнасць. Турыстычныя прадпрыемствы і іх функцыянальная роля.*
4. *Арганізатары турызму.*
5. *Сістэма транспарту.*
6. *Гасцінічная індустрыя.*
7. *Сістэма (грамадскага) харчавання турыстаў.*
8. *Забаўляльнасць і сістэма атракцый.*
9. *Інфраструктура турызму.*
10. *Матэрыяльна-тэхнічная база турызму.*

**Турыстычная індустрыя** – агульнае ўяўленне і паняткі, дэфініцыя паводле Закон Рэспублікі Беларусь «Аб турызме». **Кампаненты турыстычнай індустрыі** (арганізатары турызму, прадпрыемствы па размяшчэнні, харчу, транспарту, гандлю, вытворчасці сувеніраў, сферы адпачынку і забаваў, экскурсійныя бюро, установы самадзейнага турызму, органы кіравання, навучальныя і навуковыя ўстановы).

Турыстычная індустрыя як від вытворчасці **(спецыялізацыя, каапераця, канцэнтрацыя)**.

**Турыстычная дзейнасць. Турыстычныя прадпрыемствы** і іх функцыянальныя ролі (забеспячэнне нармальных умоваў і гарантый праезду, пражывання, анімацыйных праграмаў, бяспекі; эканомія часу, якасць абслугі, інфармаванасць).

Арганізатары турызму: **тураператары** – функцыянальная дзейнасць, тураператары масавага рынку і спецыялізаваныя, ініцыятыўныя і рэцэптыўныя; **турагенты** – функцыі, і формы супрацоўніцтва з тураператарамі.

**Сістэма транспарту (перавозчыкі):**

**– наземны, альбо сухапутны** (бус, аўто, матацыкл, чыгунка, выкарыстанне механічных сродкаў руху). Перавоз з выкарыстаннем мускульнай сілы чалавека (веславыя лодкі, ровар), жывёл (слон, конь, сабака, вярблюд). Перавозчыкі па этапу работ: трансфер, дальнемагістральныя, па маршруту, экскурсійныя, грузавыя.

**– паветраны** (самалёт, верталёт, дырыжабль, шар, ракета, карабель) – чартарныя рэйсы, таксі;

**– водны** – надводны і падводны (маторныя і парусныя лодкі, плот, параходы, паромы) – механічныя і з прымяненнем сілы чалавека (байдаркі, веславыя лодкі).

**Гасцінічная індустрыя**: сістэма размяшчэння, віды гасцініц (гасцінічнага тыпу, спецыялізаваныя, прыватныя). Класіфікацыя гасцініц паводле ўзроўню камфорту умяшчальнасці, функцыянальнага прызначэння, размяшчэння, кухні, працягласці пра-

цы. Характарыстыка ўзроўню камфорту. Класіфікацыя паводле сістэмы «зорак», літар, сістэмы катэгорый і сістэмы «карон». Вышэйшыя і ніжэйшыя катэгорыі: «сюіт», «апартамент», «люкс», «студыя», «1-й катэгорыі», «2-й катэгорыі», «3-й катэгорыі», «4-й катэгорыі», «5-й катэгорыі».

**Сістэма (грамадскага) харчавання** турыстаў: віды прадпрыемстваў харчу і іх класіфікацыя, арганізацыя ежы, метады абслугі «а ля карт», «а парт», «табльдом», «шведскі стол», іншыя.

**Сістэма атракцый і забаў**: прыродныя рэсурсы (пляж, мора, горы, лес); культурныя рэсурсы (гарады, музеі, тэатры, залы); рэкрэацыйная прастора (нацыянальныя паркі, запаведнікі, горныя курорты, іншае); падзеі (фэсты, выставы, спартыўныя мерапрыемствы); асабістыя інтарэсы (шопінг, казіно, скачкі); рамантыка, прыгоды, экзотыка; тэматычныя забаўляльныя паркі.

**Інфраструктура турызму. Матэрыяльна-тэхнічная база турызму.**

## Пытанні для самаправеркі

1. Якія вы ведаеце органы кіравання турызмам у вашым рэгіёне?
2. Што вы ведаеце пра вытворчасць сувеніраў для турыстаў?
3. Прывядзіце прыклады турыстычнай кааперацыі ў Рэспубліцы Беларусь.
4. У чым функцыянальная розніца між тураператарам і турагентам?
5. Што такое трансфер?
6. Назавіце сама вялікія гасцініцы паводле ўмяшчальнасці.
7. Якія тыпы гасцініц паводле ўзроўню камфорту функцыянуюць у Мінску, у Гродне, у іншых гарадах Беларусі?
8. Якія віды прадпрыемстваў харчу для турыстаў знаходзяцца ў Гродна?
9. Што можна прапанаваць турыстам рэгіёну Гродзеншчыны ў якасці сістэмы атракцый і забаў?
10. Наколькі магчымымі для замежных турыстаў у Беларусі з'яўляюцца такія з'явы, як рамантыка, прыгоды, экзотыка?
11. Пералічыце асноўныя кампаненты інфраструктуры турызму.

## Тэма 11. **Турыстычныя рэсурсы** (2 гадзіны)

1. *Турыстычны інтарэс. Аб'екты турыстычнага інтарэсу.*
2. *Турыстычныя рэсурсы – агульная характарыстыка.*
3. *Прыродная і культурная спадчына як турыстычны рэсурс.*

4. *Канцэпцыя ўстойлівага развіцця турызму. Экалогія і турызм.*
5. *Ахоўныя тэрыторыі.*
6. *Тэматычныя паркі.*
7. *Цуды свету.*
8. *Вольныя турыстычныя рэкрэацыйныя і эканамічныя зоны.*

**Турыстычны інтарэс** – азначэнне. **Аб'екты турыстычнага інтарэсу**, крытэрыі аб'екту (захаплялыьнасць, пазнавальныя каштоўнасці, рэкрэацыя, вядомасць, незвычайнасць, выразнасць, захаванасць, доступ, размяшчэнне, харчаванне, атракцыі). **Турыстычнае ўражанне**.

**Турыстычныя рэсурсы –** азначэнне; непасрэдныя і ўскосныя. Уласцівасці турыстычных рэсурсаў.

**Прыродная рэсурсы**: крытэрыі і патрабаванні (клімат, рэльеф, фаўна і флора, водныя багацці, гразі, помнікі прыроды і г.д.), кантроль і ацэнка (тэхналагічная, фізічная, псіхалагічная).

**Культурна-гістарычныя** рэсурсы (помнікі дойлідства, скульптуры, народных промыслаў, славутыя і выдатныя мясціны). Крытэрыі аб'ектаў культурнага генэзісу Спіса Сусветнай спадчыны (шэдэўр, унікальнасць, дэманстрацыя рэдкіх традыцый, узорнасць).

**Турыстычны цэнтр.** Тыпы турцэнтраў (культурна-гістарычны, паломніцкі, курортны, прыморскі, аздараўляльны, дзелавы, кангрэсны, экалагічны, спартыўны, альпінiскі, паляўнічы, рыбалоўны, этнаграфічны, забаўляльны, іншыя). Камбінаваныя.

**Канцэпцыя ўстойлівага развіцця турызму** (прапускны патэнцыял – экалагічны, турыстычна-сацыяльны, мясцовы)**:** разумнае і эканамічнае выкарыстанне, рэсурса-зберагальныя тэхналогіі, скарачэнне адходаў, партнёрства, павышэнне ролі турызму.

**Экалогія і турызм:** экалагічны турызм, асноўныя прынцыпы экалагічнага турызму. Акцыя «Зялёная планета».

**Ахоўныя тэрыторыі: курорты** (функцыі і тыпы курортаў); **нацыянальныя паркі** (вядомыя нацыянальныя паркі свету, нацыянальныя паркі Беларусі); **запаведнікі і рэзервацыі** (патрабаванні і ўласцівасці): навуковы запаведнік, памятнікі прыроды, біясферныя запаведнікі, запаведнік дзікіх жывёл (заказнік), ахоўны ландшафт, рэсурсны запаведнік, антрапалагічны запаведнік, кіруемая рэсурсная тэрыторыя; **аб'екты аховы** (пяшчэры, горы, лес, замкі, камяні).

**Тэматычныя паркі**: дыснейланд, акеанарыўмы, заапаркі, аквапаркі, індустрыяльныя паркі.

**Цуды свету:** піраміда Гіза, сады Семіраміды, статуя Зеўса, храм Арфеміды, маўзалей Халікарнаса, Колас Радоскі, Маяк у Фаросе.

**Вольныя турыстычныя рэкрэацыйныя і эканамічныя зоны** (СЭЗ). Мэты стварэння свабодных зон. Характарыстыка СЭЗ. Прававое рэгуляванне.

## Пытанні для самаправеркі

1. Паводле якіх характэрных прыкмет можа быць вызначаны аб'ект турыстычнага інтарэсу?
2. Вызначце аб'екты прыродных турыстычных рэсурсаў вашага рэгіёна.
3. Вызначце аб'екты культурна-гістарычнай спадчыны вашага рэгіёна.
4. Якія фактары ўплываюць на фармаванне турыстычнага ўражання?
5. У чым праяўляецца сутнасць канцэпцыі развіцця ўстойлівага турызму?
6. Назавіце найбольш вядомыя нацыянальныя паркі свету.
7. Пералічыце нацыянальныя паркі Беларусі.
8. Назавіце тэматычныя паркі Еўропы.
9. Якія вы ведаеце тэматычныя паркі ў Беларусі?
10. Назавіце цуды свету.
11. З якімі мэтамі ствараюцца вольныя турыстычныя эканамічныя зоны?

## Тэма 12. **Бяспека ў турызме** (2 гадзіны)

1. *Бяспека турыстычнага маршруту. Фактары небяспекі.*
2. *Надзвычайныя сітуацыі.*
3. *Турыстычная, камерцыйная і арганізацыйная рызыка.*
4. *Турыстычная страхоўка.*
5. *Апекуны падарожнікаў.*

**Бяспека турыстычнага маршруту:**

**– пры фармаванні туру** (устрымацца ад небяспечных маршрутаў; улічваць клімат, прагноз, традыцыі, заканадаўства; выкарыстанне надзейнага транспарту, інфармаванасць);

**– пры рэалізацыі туру** (інструктаж, наяўнасць лекаў, устрыманне ад невядомых напояў і ежы, сонца і вады; кантроль амуніцыі; бяспека на транспарце (правілы высадкі, пасадкі, паводзін); бяспека ў гасцініцы (інфармацыя па тэхніцы бяспекі, запасны выхад,, пажарны інвентар, сігналізацыя; бяспека на пунктах харчавання (шкодныя рэчывы і дабаўкі, індыградыенты, радыёнклюіды); арганізацыйныя недакладнасці і праблемы; бяспека замежнага туру; асабістая бяспека і бяспека маёмасці.

**Фактары небяспекі**: траўмы, уздзеянне навакольнага асяроддзя і вытворчыя крыніцы (шум, вібрацыя, пыл, пажар, хімічныя, радыёактыўныя, біялагічныя, псіхафізічныя фактары), далагічныя фактары (інфекцыйныя захворванні і атрутнасць) крымінагенныя і спецыфічныя фактары.

**Надзвычайныя сітуацыі.** Стыхійныя катаклізмы, вулканы, землятрусы, цунамі, патопы, тарнада, эпідэміі.

**Турыстычная камерцыйная і арганізацыйна-тэхнічная рызыка** (банкроцтва, машэнніцтва, забастоўкі, змена надвор'я, паломка транспарту).

**Страхоўка.** Асноўныя тэрміны і паняткі. Страхаўнік, страхоўшчык, страхавая рызыка, страхавы выпадак. Функцыі эканамічнай сутнасці страхоўкі. Абавязковая і дабравольная страхоўка. Віды страхоўкі ў турызме.

**Апекуны падарожнікаў. Міфалогія:** Апалон, Асклепія, Пан, Гера і Афіна, Адысей, Бялун. **Святы Мікалай:** культ святога Мікалая ў Беларусі.

## Пытанні для самаправеркі

1. Што трэба разумець пад паняткам «небяспечны маршрут»? Назавіце турыстычныя рэгіёны з такімі маршрутамі.
2. Як трэба паводзіць сябе нашаму турысту ў Турцыі, Арабскіх Эміратах і іншых ісламскіх краінах?
3. Што трэба ведаць турысту, каб не стаць ахвярай машэннікаў, крымінальнікаў, гвалтаўнікоў, зладзеяў?
4. Што сабой павінна ўяўляць асабістая «аптэка турыста»?
5. Якія небяспечныя фактары ўплываюць на фармаванне турмаршрутаў у Рэспубліцы Беларусь?
6. Пры якіх выпадках страхоўка не выплачваецца турысту?
7. Якія вы ведаеце цудадзеянні святога Мікалая?

## Тэма 13. **Турыстыка** (2 гадзіны)

1. *Турыстыка як навука.*
2. *Гнаселагічная мадэль турызму.*
3. *Турызм і іншыя сумежныя і дапаможныя дысцыпліны і навукі: псіхалогія, антрапалогія, сацыялогія, эканоміка, геаграфія, інфарматыка, права.*

**Турыстыка** як сінтэзуючая навука, патрабаванні (адзінага комплекснага падыходу, сістэматызацыі, вызначэння аб'екта, суб'екта і прадмета даследавання, актуальнасці навуковай праблематыкі, абагульненне ведаў і метадаў, вывучэнне міжпрадметных сувязей).

**Аб'ект, суб'ект і прадмет** даследавання ў турыстыцы.

**Гнаселагічная мадэль турызму** (Т – П – матывацыя і патрэбы, Т – І – рэкрэацыя), (І – Т – турпаслугі, І – П – тэхналогія), (П – І – тураперэйтынг, П – Т – анімацыя).

**Турызм і іншыя сумежныя і дапаможныя дысцыпліны і навукі.**

**Псіхалогія і турызм** (псіхалогія турпрапаноў і продажы тураў, матывацыя і патрэбы, псіхалогія спажывання, паводзіны і матывацыі паводле інтэлекту, складу розуму, узросту, прафесійнасці; псіхалогія турыстаў паводле тэмпераменту; 4 тыпы ментальнасці паводле Шуберта; размеркаванне нагрузкі, настрой і мода).

**Антрапалогія і турызм** (чалавек – прырода – культура, чалавек і грамадства, чалавек і сацыяльна-культурныя і эканамічныя ўмовы; сістэма адносін, размеркаванне нагрузкі на тураб'ект, турпатокі).

**Сацыялогія і турызм** (сацыяльна-грамадскія ўмовы: час, сродкі, бяспека, свабоды, правы; матывацыі паводле ўзросту, сацыяльнага становішча, прафесіі, адукацыі, места пражывання, культуры; сацыялагічныя апытванні).

**Эканоміка і турызм** (аналіз і прагноз разумнага выкарыстання прыроднага патэнцыялу, магчымасцей чалавека, размеркаванне рэсурсаў, задавальненне патрэбаў. Эканамічная палітыка, эканамічныя мэты – продаж, даход, прыбытак, рост вытворчасці. Забеспячэнне працаздольнасці, каардынацыя эканамічнай дзейнасці, развіццё туріндустрыі, інвестыцыйная палітыка. Прыватны капітал. Эканоміка рэгіёна.

**Геаграфія і турызм** (турыстычныя раёны і рэгіёны, геаграфія турызму і турпатокаў, турыстычныя зоны і зоны небяспекі, клімат, прыродныя рэсурсы, дэмаграфічныя спады).

**Інфарматыка і турызм** (інфармацыйныя сістэмы броні турпаслуг, базы дадзеных туррэсурсаў, турпрадукту, тураў. Кампутарная сістэма «Amadeys», «Calileo», «Sabre» пры броні, перавозках, рэкламе і іншых паслугаў).

**Права і турызм.** Турыстычнае права. Нацыянальнае права (рэгуляванне іміграцыйных і мытных нормаў, адносінамі арганізатараў і кліентаў, паслугамі і таварамі. Міжнароднае турыстычнае права. Міжнародныя турарганізацыі – кангрэсы, пастановы, рэзалюцыі. Права на адпачынак. Унармаванне турыстычнай дзейнасці і тэрміналогіі. ВТО: «Хартыя турызму», «Кодэкс турыста».

## Пытанні для самаправеркі

1. Што такое навука? Дайце тлумачэнне тэрміну?
2. Размяжуйце паняткі аб'ект, суб'ект і прадмет даследавання.

